# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1169) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 23 ЛІПЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.



„Іскрынкі“ з Бельскага беларускага ліцэя са сваім кіраўніком Сяргеем Лукашуком. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Новыя вершы

* ✻ *

Не спяшы, зіма,
Белым снегам крыць
Золата лістоў,
Водсветы зарніц,
Сцежкі на палях,
Нівы, курганы,
Маладую рунь,
Летуценні-сны,
Песню, што ў грудзях
Жаўруком звініць, —
Не спяшы, зіма,
Белым снегам крыць.
Пахавай навек,
З ветрам замеці
Ліхалецця дні
У нашай памяці.

* ✻ *

Адны радаслоўную сваіх вершаў
Выводзяць ад Гамера,
Другія — ад Авідыя, Шэкспіра,
Трэція...
А што мне рабіць,
Калі ў мяне ўсе вершы
Незаконнароджаныя.
У іх метрыках не знойдзеш
Ні бацькоў, ні кумоў.
А толькі —
Палаючыя сцягі, скібы раллі
І азораныя Вечным агнём
Абеліскі.

* ✻ *

І чым ты так вабіш, не знаю,
Нябёсаў бяздонная сінь,
За казачныя небакраі
У нязведаную далячынь!

Няўжо я, дзівак, спадзяюся
Другую радзіму адкрыць,
Як быццам бы без Беларусі
Змагу я і дыхаць і жыць.

І ўсё ж, як Лятучы галандзец,
Наяве, у марах і ў снах
Блукаю ў прасторах галактык,
Да зор невядомых — мой шлях.

* ✻ *

У далеч нязведаную Задыяк,
Здаецца мне, кліча нібыта.
А я не магу і дагэтуль ніяк
Апошняй загадкі разблытаць:

За што мяне раскрыжаваць так змаглі
У гэтым сусвеце каварным,
Прыцвікаваўшы руку да Зямлі,
Другую — да зоркі Палярнай.

**Максім Танк**

# Равеснік Народнай Польшчы

Рэдка які нават значны гарадскі цэнтр можа пахваліцца такой папулярнасцю ў мастацкім свеце, як невялічкі Бельск. Бо хто тут толькі не пабываў на працягу хоць бы апошніх некалькі год! Гасцявалі тут Драматычны тэатр з Беластока з „Паліцыяй“ С. Мрожка, „Грахом“ С. Жаромскага, „Помстамі“ Л. Кручкоўскага, „Рыгорам Дындалам“ Ж. Мальера і іншымі сваімі п'есамі, Лялечны тэатр з Беластока з „Дон Жанам“, „Панчам“ і дзесяткам іншых пастановак для маленькіх і для дарослых гледачоў, Драматычны тэатр з Любліна з „Кірыелейсанам“ Э. Рэдлінскага, варшаўскія акцёры ставілі „Акапі“ С. Граховяка, спявалі тут і гралі кракаўскія „Вавелі“, варшаўскія „Чырвона-чорныя“, вроцлаўская „Эліта“, келецкія „Арыяне“, „Паланез“ з Узбярэжжа, „Крокусы“ з Кракава, трасла ад смеху Ганка Бяліцкая, захапляў вакальным майстэрствам хор Варшаўскага універсітэта, давалі багатыя канцэрты „Нёман“ з Гродна, „Лідчанка“ з Ліды, самадзейны калектыў з Валкавыска, грэчаскі калектыў „Гэлен“ і іншыя. А што ўжо казаць пра розныя сустрэчы з выдатнымі людзьмі, пісьменнікамі, акцёрамі, ці пра мясцовыя культурна-асветныя мерапрыемствы, агляды, конкурсы? Гэтае ўтульнае і працавітае мястэчка заўсёды славілася сваімі ініцыятывамі ў культурнай дзейнасці. Але лепш пазнайма бліжэй Сяргея Лукашука, дырэктара Бельскага дома культуры, у руках і... сэрцы якога знаходзіцца цэнтр кіравання гэтым багатым культурным жыццём.

Ён — аднагодак Народнай Польшчы, нарадзіўся 22 ліпеня 1944 года. Сын звычайнага селяніна. Пасля заканчэння Бельскага педагагічнага ліцэя ён доўгі час настаўнічае, кіруе пачатковай школай у Галадах, што каля Бельска. Вядома, вясковы настаўнік, хоч не хоч, мусіць быць спецыялістам па ўсіх прадметах. Такім быў і С. Лукашук, бо калі не было настаўніка матэматыкі, трэба было вучыць дзяцей дробам і працэнтам, а калі паланістка паехала на курс — аналізаваць „Пана Тадэуша“.

Але ўсё ж самым любімым яго прадметам заўсёды былі спевы ці, як потым пачалі называць гэтыя ўрокі, — музычнае выхаванне. Зрэшты, незвычайны свет музыкі заўсёды яго вабіў: і ў ігры вясковага гарманіста ў родных Грэдалях, і на занятках ігры на інструменце ў педагагічным ліцэі. Калі не здавальняла гэтага зацікаўлення праца са школьным хорам у Галадах, ён стаў працаваць спачатку акампаніятарам, а потым дырыжорам Бельскага беларускага хору. І тут, у працы са славутымі бельскімі „Васілёчкамі“ поўнасцю раскрыўся яго шматгранны талент музыканта, педагога, арганізатара і проста сардэчнага чалавека — якасць, што мае выключна важнае значэнне ў працы на ніве культуры. Ён заканчвае завочнае аддзяленне музычнага выхавання ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку і неўзабаве пераходзіць працаваць на пасаду кіраўніка культурна-асветнага аддзела Галоўнага праўлення БГКТ.

І тут перад С. Лукашуком паўстала мноства праблем, пра якія ён часам і не чуў, бо яны датычылі не толькі спраў мастацкага ўзроўню таго ці іншага калектыву, адпаведнасці ці неадпаведнасці рэпертуару, але перш за ўсё найцяжэйшыя і найбольш клапатлівыя ў культурна-асветнай дзейнасці арганізацыйныя, фінансавыя, персанальныя і ім падобныя справы. І ўсё ж ён патрапіў уладкоўваць іх і не спыняць працы з „Васілёчкамі“, дапамагаць іншым калектывам БГКТ, прыняць непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні першага конкурсу „Беларуская песня“, зрабіць шэраг іншых добрых учынкаў для развіцця беларускага мастацкага самадзейнага руху на Беласточчыне і... пачаць завочна вучобу на аддзяленні музычнага выхавання ў вышэйшай музычнай школе ў Варшаве. І, бадай, тады даспела ў яго рашэнне быць бліжэй школы. Ён вяртаецца ў Бельск, працуе намеснікам дырэктара Беларускай пачатковай школы, адначасова вядзе ў ёй музычнае выхаванне, школьны хор і працягвае працу з „Васілёчкамі“, словам, зноў акунаецца ў музычную Бельшчыну. Неўзабаве яго назначаюць дырэктарам дома культуры. Багацце музычнага жыцця гэтага рэгіёна наводзіць С. Лукашука на думку прысвяціць яму і сваю магістэрскую працу.

Працяг на стар. 4




Фэстам у Рыбаках Галоўнае праўленне БГКТ закончыла цыкл народных мітынгаў, прысвечаных 60-ай гадавіне БССР (аб гэтым фэсце чытайце на стар. 3).

# На касмічнай арбіце

*(З паведамлення ТАСС)*

5 ліпеня 1978 года пасля паспяховага выканання запланаваных даследаванняў і эксперыментаў на борце арбітальнага навукова-даследчага комплексу „Салют-6“ — „Саюз-29“ — „Саюз-30“ міжнародны экіпаж у саставе двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР Пятра Клімука і касманаўта-даследчыка, грамадзяніна Польскай Народнай Рэспублікі Міраслава Гермашэўскага вярнуўся на Зямлю. Работу на борце арбітальнай станцыі „Салют-6“ працягваюць касманаўты У. В. Кавалёнак і А. С. Іванчэнкаў.

У ходзе сямісутачнага палёту на борце арбітальнага навукова-даследчага комплексу „Салют-6“ — „Саюз-29“ — „Саюз-30“ таварышы Кавалёнак, Іванчэнкаў, Клімук і Гермашэўскі праводзілі візуальныя назіранні і фатаграфаванне розных раёнаў паверхні Зямлі ў мэтах вывучэння прыродных рэсурсаў, выканалі рад тэхналагічных і медыка-біялагічных эксперыментаў, падрыхтаваных вучонымі і спецыялістамі Савецкага Саюза і Польскай Народнай Рэспублікі. У прыватнасці, ва ўмовах касмічнага палёту былі атрыманы новыя матэрыялы, вывучаўся ўплыў бязважкасці на стварэнне і рост паўправадніковых крышталяў. Значны аб'ём даследаванняў датычыў праблемы стварэння аптымальных умоў для забеспячэння жыццядзейнасці экіпажаў у працяглым касмічным палёце.

Паспяхова завершаны чарговы міжнародны касмічны эксперымент — новы крок у брацкім супрацоўніцтве сацыялістычных краін, заснаваным на вялікім прынцыпе пралетарскага інтэрнацыяналізму.



На здымку: П. Клімук і М. Гермашэўскі.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

◆ Распрацаваны праект першай чаргі комплексу збудаванняў, якія забяспечаць у гэтай пяцігодцы пуск тралейбуса ў Брэсце. Ва ўсходняй частцы горада паміж чыгункай Брэст — Масква і базай „Саўтрансаўта“ пачалося будаўніцтва тралейбуснага дэпо. З уводам першай чаргі жыхары абласнога цэнтра атрымаюць зручны пасажырскі маршрут, які звяжа чыгуначны вакзал, цэнтр горада з хутка растучымі ўсходнім прамысловым і жылым раёнамі.

◆ Побач з нафтаперапрацоўчым заводам калектыў трэста „Мазырнафтахімбуд“ пачаў узвядзенне ў Мазыры буйнога прадпрыемства па вытворчасці дражджэй. Яго праектная магутнасць — 300 тысяч тон прадукцыі ў год. Зыходнай сыравінай будуць прадукты нафтаперапрацоўкі.

У будаўніцтве завода прымуць удзел члены Савета Эканамічнай Узаемадапамогі — Балгарыя, Венгрыя, ГДР, Польшча, Чэхаславакія.

## У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**150 гадоў назад**

24 VII 1828 нар. М. Чарнышэўскі, рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, вучоны, пісьменнік.

**125 гадоў назад**

27 VII 1853 нар. У. Караленка, рускі пісьменнік.

**75 гадоў назад**

27 VII 1903 нар. М. Чаркасаў, рускі савецкі акцёр тэатра і кіно.

**60 гадоў назад**

26 VII 1918 нар. І. Грамовіч, беларускі савецкі пісьменнік.

**25 гадоў назад**

26 VII 1953 пачалося нацыянальнае паўстанне на Кубе.






**У Чарэўках над Нарвай ◆ Баброўка ◆ Новыя вершы Максіма Танка ◆ Дваццаць унукаў бабулькі Міхаліны ◆ З горда ўзнятым чалом ◆ „Арэшкі“ ◆ Адамаўскі ◆ СКР у Нараўцы ◆ „Скарб „Чорнага ордэна“ (тайны другой сусветнай вайны) ◆ Весткі з Гайнаўкі, Дубіч Царкоўных, Бельска, Грабаўца, Белак, Белавежы, Шчасновіч, Храбалоў ◆ Калі сніцца цяжкая вопратка ◆ Мода на „цыбулю“ ◆ Песня „Oddam wszystko, co mam“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 22 VII** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleferie dla najmłod. 9.55 Pierwsze dni wolności. 10.55 Festiwal Zespołów Art. WP — Połczyn 78. Koncert galowy. 11.55 Uroczysta odprawa wart. 12.45 Rzecz muzyczna — Chełm. 13.30 Sport. 14.05 Wielka gra. 14.55 Człowiek orkiestra — komedia franc. 16.20 — Klub sześciu kontynentów. 17.20 Mazurek Dąbrowskiego. 17.35 Gawęda i czterdziestu rozbójników. 18.35 Mazurek Dąbrowskiego. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Nie ma róży bez ognia — pol. film fab. 22.15 Mazurek Dąbrowskiego. 22.30—23.25 Polska pieśń żołnierska.

**Niedziela 23 VII** — 7.15 Zajęcia wakacyjne: Mleko. 7.35 Organizacja pracy. 8.00 Now. w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino teleranka. 9.30 Antena. 10.00 Wisła — fabularyzowany film dok. 11.00 Dziennik. 11.15 Rolnicze rozmowy. 11.45 Koncert galowy Festiwalu Folkloru i Sztuki Ludowej w Płocku. 12.45 Opowieści reporterów. 13.15 Płomień i strzała — ameryk. film fab. 14.40 Himalaje 78. 15.05 Los. Dużego Lot. 15.15 Alarm miłosny — pr. rozr. 15.55 W Starym Kinie: Straszny Dwór. 17.00 Tele-Echo. 18.00 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Panie na Mogadorze — ser. franc. 21.35 Przeboje mistrzów. 22.20—22.40 Sport.

**Poniedziałek 24 VII** — 14.20 Program dnia. 14.25 Pójdziesz swoją drogą — film fab. NRD. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Dom i my. 17.45 Sport. 18.10 Melodie. 18.25 Trudny wybór — odc. ser. „Doktor Ewa". 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Jan Gudmusson: Symfonia Praska. 22.00 Camerata. 22.30 Szuflada. 22.50—23.05 Dziennik.

**Wtorek 25 VII** — 10.00 Panie na Mogadorze — ser. franc. 14.40 Program dnia. 14.45 Wilk morski — film fab. rum. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Tel. Mł. 17.10 Nasza armia przeszła Ebro. 17.35 Postawy: Zamiłowanie. 18.10 Melodie. 18.25 Świat, który nie może zaginąć. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Życie i śmierć Penelopy — ser. ang. 21.25 Wszystko za wszystko. 22.25—22.40 Dziennik.

**Środa 26 VII** — 14.20 Program dnia. 14.25 Bokser — film fab. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino najmłodszych. 17.00 Spoza gór i rzek — Rodowód Kościuszkowskiej Dywizji. 17.30 Los. Małego Lot. 17.40 Kółko i krzyżyk. 17.55 Pan Majster — film fab. CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Godzina prawdy — film fab. CSRS. 22.00 X Y Z — cz. I. 22.30 Dziennik. 22.45—23.15 X Y Z.

**Czwartek 27 VII** — 14.25 Program dnia. 14.30 Barwy walki — film fab. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie TDC. 17.30 Reportaż wojskowy. 17.55 Melodie. 18.20 Sonda: Zęby. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Niepokoje komisarza Maigret — fr. film krym. 22.05 Pegaz. 22.50—23.05 Dziennik.

**Piątek 28 VII** — 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.15 Wakacyjne Kino Młodych. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie dla najmłod. 17.00 Granitowy archipelag. 17.15 Sprawdzian — film TV NRD. 18.30 Magazyn motoryzacyjny. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wspomnienia — kubański film fab. 22.20 Dziennik. 22.35—23.05 Festiwal Opole 78.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 21 VII** — 8.40 Film fab. II cz. 18.05 Film fab. ser. 20.30 Wieczór poświęcony 85-leciu W. Majakowskiego.

**Sobota 22 VII** — 9.50 Film fab. 12.50 W świecie zwierząt. 15.15 Nie do wiary. 16.15 Cyrk. 19.00 P. nożna. Czernomoriec—Dynamo (T). 20.30 Pr. estrad. 21.30 Sport.

**Niedziela 23 VII** — 7.55 Koncert chóralny. 10.00 Film fab. 13.00 Spektakl. 15.15 Panorama międzynar. 16.00 Koncert życzeń. 17.15 Filmy anim. 17.45 Klub film. 18.50 Film fab. 21.30 Sport.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Wyspa skarbów — fr. 25—26. Zbieg — jug. 27—28. Tajemnica — fr. 29—30.

**Bielsk Podl.** Wesela nie będzie — pol. 24. Taksówkarz — USA 25—26. Pojedynek — ang. 27—28. Dick i Jane — USA 29—30.

**Czeremcha** Szczury Paryża — fr. 25—26. Dzień szarańczy — USA 29—30.

**Czyże** Wzgórze Zelengory — jug. Zagrożenie — pol. 26—30.

**Gródek** Czarny korsarz — wł. 29—30.

**Hajnówka** Cenny depozyt — fr. 24. Barwy mojej młodości — jap. 25—26.

**Michałowo** Światło — fr. 25—26. Okrągły tydzień — pol. 27—28.

**Mielnik** Czwarta pani Anderson — hiszp. 26. Dom lalki — ang. 29—30.

**Milejczyce** Granica — pol. Wyspa skarbów — fr. 26—30.

**Narew** Wspaniały mężczyzna — buł. Pociąg w śniegu — jug. 26—30.

**Nurzec** Dziewczyna z gór — jug. 25—26. Szczęście na smyczy — jug. 27—28. Akcja „salamandra" — rum. 29—30.

**Orla** Avanti — USA. Zdjęcia próbne — pol. 26—30.

**Rajsk** Intryga rodzinna — USA. Tata ja już wyszłam za mąż — USA 26—30.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warczawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 1609, 6.400 egz. N-4

 

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# ЗАСТАНЕЦЦА Ў НАШЫХ СЭРЦАХ

У мінулым годзе („Ніва" ад 20 сакавіка) быў надрукаваны мой артыкул „У пошуках магілы брата". У ім пісалася, што грамадзянка Савецкага Саюза Надзежда Купрыянаўна Валенюк-Чупілка шукала магілу свайго брата, які загінуў у 1944 годзе на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны.

У той жа справе я атрымаў другі ліст. Яго прыслаў намеснік рэдактара газеты „Маяк камунізма" з горада Бяроза Брэсцкай вобласці Яўген Селеня. Вось яго змест:

„24 ліпеня 1944 г. на тэрыторыі сённяшняга Беластоцкага ваяводства ў раёне вёскі Чаромха загінуў Герой Савецкага Саюза Міхаіл Купрыянавіч Чупілка. У паведамленні, атрыманым жонкай, аказалася, што ён пахаваны каля вёскі Кузава. А мы ведаем, што ён пахаваны ў горадзе Бярозе (Картуз-Бяроза) Брэсцкай вобласці. Гэта не выключаецца, паколькі ў час вайны астанкі загінуўшых за рубяжом генералаў і герояў Савецкага Саюза дастаўляліся на тэрыторыю нашай краіны. Каб цвёрда быць упэўненымі, што Чупілка пахаваны ў Бярозе, мы просім Вас паведаміць, ці не валодае газета „Ніва" якімі-небудзь паведамленнямі пра Чупілку, пра яго смерць і пахаванне і ці ён пахаваны каля вёскі Кузава..."

І вось у мяне 2 лісты, якія датычаць адной і той жа справы. Я абяцаў адшукаць след загінуўшага героя, знайсці яго магілу. Зараз магу сказаць, што мне гэта ўдалося.

Надзежда Купрыянаўна Валенюк-Чупілка пісала ў сваім першым лісце: „...Мне вядома з апавяданняў навочных сведкаў-калег, з артыкулаў газет, што гэта здарылася ў раёне вёскі Кузава і станцыі Чаромха..." У другім лісце рэдактар Яўген Селеня паведамляў, што М. К. Чупілка, Герой Савецкага Саюза, загінуў у раёне вёскі Чаромха. Адно ў гэтых двух лістах было супольнае — Чаромха. Не ведаў я толькі, ці вёска Чаромха і станцыя Чаромха былі адным і тым жа месцам здарэння (гэта значыць месцам смерці Чупілкі), аб гэтым не ведалі і аўтары лістаў.

Я надумаў пачынаць пошукі ад Кузавы. А вось чаму: зараз жа пасля вайны, на ўскраіне ляску Верасок, што засланяе Кузаву з усходняга боку, валялася некалькі разбітых танкаў, мноства снарадаў і іншага лому. Тут знаходзілася супольная магіла танкістаў. Кузаўцы казалі, што ў ёй пахавана пяць ці шэсць савецкіх байцоў. У тым раёне было разбіта яшчэ некалькі іншых танкаў. Магіла савецкага салдата была паміж Кузавай і ст. Чаромхай, зараз жа за рэчкай Нурчык, каля сяліб Аляксея Місюка і Міхася Селеха. Я спадзяваўся, што тут і загінуў М. К. Чупілка, а пахаваны ў адной з магіл, якія знаходзіліся каля Кузавы. Каб ажывіць падзеі тых дзён, я накіраваўся да Яна Рэпкі, які добра памятае вайну і можа расказаць не адну цікавую гісторыю. Аднак чакала мяне расчараванне. Ян Рэпка сказаў, што танкі, якія валяліся пад лесам, былі разбіты ў 1941 годзе, а не ў 1944 г. Каб верыць Яну Рэпку, я надумаў пагаварыць з іншымі старажыламі вёскі. Афанасій Раманчук не памятаў нічога, здароўе слабаватае і памяць ужо падводзіць. А Ян Смык так успамінае:

— У 1944 годзе, пад вёскай Чаромхай было сапраўднае пекла. Бой працягваўся некалькі дзён. Вёска Чаромха ў адзін дзень пераходзіла з рук у рукі. Рускія ішлі ў напрамку Дабрывады, Кляшчэляў. А ў вёсцы былі немцы. Я не бачыў, але казалі, што пасля бітвы ў жыце ляжалі дзесяткі трупаў немцаў і рускіх. Гэта было пад канец ліпеня, тыдзень, а мо паўтара засталося да Ільі (прыхадское свята ў Чаромсе). Жыта стаяла някошанае...

Аб разбітых танках каля Кузавы я нічога не даведаўся ад Яна Смыка. І аб Чупілку ніхто ў нашай вёсцы нічога не мог сказаць. І пайшоў я ў вёску Чаромху. Адразу заглянуў да Фадзея Леўчука. Як казалі аднавяскоўцы, ён выкопваў астанкі савецкіх байцоў пасля вайны. Мае субяседнікі, Фадзей Леўчук з

Працяг на стар. 4



*Фэст у Рыбаках заўсёды выклікае вялікае зацікаўленне.*

# ФЭСТ У РЫБАКАХ

Мікалай Міруць, тутэйшы грамадскі дзеяч, актывіст БГКТ, сакратар па сельскагаспадарчых справах гміннага камітэта партыі, кажа, што фэст у Рыбаках наладзілі яны ўжо 21 раз.

— Як толькі Беларускае таварыства распачало сваю дзейнасць, — гаворыць ён, — дык мы адразу на другі год наладзілі такое народнае свята. Яшчэ тады жыў пакойны Янка Азябла з Пянькоў, які вельмі многа нам дапамагаў у арганізацыі гэтых фэстаў. Памятаю, вось тут, за школай, ля ўваходу на гэтую пляцоўку пабудавалі мы тады вялікія вароты, упрыгожылі іх зялёнымі галінкамі, дзеразой, кветкамі, павесілі партрэты дзяржаўных дзеячоў і беларускіх пісьменнікаў. З гэтага часу так ужо ў нас павялося, што ў кожную першую нядзелю ліпеня мы ў Рыбаках наладжваем народны фэст.

На гэты раз, значыць 2 ліпеня 1978 года, не было трыумфальных варот, а сцэну для ўрачыстасцей і для спеваў абсталявалі рыбакоўцы пад высокімі альшынамі на выгане над Нарвай.

— То ж паймі, Рудчык, — гаварыў мне сябар Міруць, — сёння ў Рыбаках ніхто нават кароў не выганяў на пасбішча, каб не мяшалі людзям сабрацца на выгане.

Замест трыумфальных варот, было прывітальнае чырвонае палотнішча, а над сцэнай развешаны між альшынамі лозунг **„60 год БССР"**, прадстаўнікі гэсаўскага гандлю з Міхалова прадавалі піва, аранжаду, мінеральную ваду і ўсё іншае, чым можна пачаставаць дзяўчат і знаёмых. А людзі тут надзвычай гасцінныя і шчырыя.

Фэст распачаўся ў абед. Адкрыў яго той жа Мікалай Міруць, а затым выступалі: ад імя мясцовых улад — сакратар гміннага камітэта партыі ў Міхалове Станіслаў Гаеўскі і ад імя БГКТ — член Прэзідыума Галоўнага праўлення Вінцук Склубоўскі.

І ў гэты момант падвяла тэхніка: замоўклі гучнагаварыцелі. Вінцук Склубоўскі ледзь голасу не сарваў, так стараўся гаварыць голасна. На жаль, мала хто яго чуў, бо народу з усяго наваколля сабралося некалькі тысяч і нямногім удалося даціснуцца да маленькай сцэны, дзе ў першых радах звычайна найбольш дзяцей.

Таксама было, калі выступалі са сваімі песнямі калектывы з Беластока і Райска. Нават калі спяваў Аляксандр Раманюк з Дубяжына са сваім магутным голасам.

Людзі збіраліся групамі, частаваліся чым маглі і заводзілі гутаркі аб сваіх сялянскіх справах. Да адной з такіх груп далучыўся і я. У ёй аказаліся браты Іван і Мікалай Рыгароўцы з Рудні і Мікалай Хлябіч з Рыбакоў. Яны абменьваліся меркаваннямі пра апошні касмічны палёт, у якім прыняў удзел грамадзянін ПНР Міраслаў Гермашэўскі. Яго каляровыя партрэты ва ўборы касманаўта можна было сустрэць нават тут, у Рыбаках.

— Я пражыў на гэтым свеце ўжо звыш 80 гадоў, — сказаў старэйшы з Рыгароўцаў. — Памятаю, як яшчэ было за цара. І ніколі не спадзяваўся такога цуда, каб пабачыць, як прадстаўнік нашай краіны аж у космас дабраўся.

— А як яго сустракалі рускія касманаўты, як яны цалаваліся! — гаварыў малодшы брат Іван.

— Вось каб усе людзі на цэлым свеце так сябравалі! — дакінуў дзядзька Хлябіч з Рыбакоў.

— І пэўна, што было б вельмі добра! — згадзіўся з ім старэйшы Рыгаровец.

І тады зноў уключыліся гучнагаварыцелі, паплыла звонкая песня: пра Алёну, што мыла ручнікі, пра Нёман, пра Беларусь непакорную і прыгожую, пра каханне і расставанне...

А потым моладзь наладзіла танцы, а старэйшыя разышліся па хатах, каб прымаць гасцей. А нам быў час у дарогу.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Людзі прыязджалі ў Рыбакі хто чым меў...*

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ДЭМАНАЛОГІЯ

# ЧОРТ

Чорт з'яўляецца найбольш вядомай і шырока бытуючай у народзе яшчэ па сённяшні дзень дэманалагічнай постаццю. З'яўляецца ён прадстаўніком сіл зла, прадстаўніком, якому прыпісваюць амаль усе чалавечыя няўдачы і няшчасці. Згодна з перакананнем людзей, жыве ён у пекле, якое знаходзіцца недзе ў глыбіні зямлі. На зямлі паяўляецца толькі дзеля спакушэння чалавека і заваявання яго душы. Адначасова з'яўляецца дапаможнай сілай розных ведзьмароў. Адзінай зброяй перад чортам з'яўляецца знак крыжа, малітва, адным словам, усё, што звязана з божай сілай. Адгэтуль і выводзіцца „баяцца, як чорт крыжа", „баяцца, як чорт свянцонай вады".

Кожная істота, створаная людскім уяўленнем, фантазіяй, надзелена адначасова нейкімі характэрнымі ёй рысамі. Апісанняў выгляду чорта ёсць шмат, але ўсе яны маюць у сабе адно супольнае ядро, тыя рысы, якія з'яўляюцца самымі характэрнымі. У сувязі з тым, што заданне чорта — спакушваць чалавека, каб пхнуць яго душу ў вечныя пакуты, гэта значыць у пекла, надзелены ён магчымасцю зменьваць свой выгляд і таму мае два знешнія воблікі.

Які ж ён? У рэальным штодзённым сваім быце чорт — гэта пакрытая цёмнай поўсцю постаць, якая нагадвае сабой крыху постаць чалавека. Ходзіць ён на дзвюх нагах, толькі закончаны яны не пальцамі, а капытамі. Неадлучнай рысай знешняга выгляду чорта з'яўляюцца хвост і рогі, якія напамінаюць сабой рогі маладога козліка. Вушы ў яго заўсёды адтапыраныя і даволі вялікіх размераў.

У другім вобразе заўсёды чорт выступае як прыстойны, элегантны мужчына ў чорнай вопратцы, а асабліва ў фраку і цыліндры. Твар яго хударлявы, смуглы, з арліным носам. Але мае пэўныя рысы, якія не занікаюць. Прыкладна, заўсёды застаюцца пад капелюшом рогі. Некаторыя гавораць, што застаецца таксама і хвост. Цікавае дзеецца з нагамі. У некаторых мясцовасцях гавораць, што выступае ён у бліскучых ботах, у іншых — што на курыных лапах.

Чорт найчасцей паяўляецца ноччу, асабліва ў поўнач. Поўнач у народным перакананні — пара страхаў. Бытуюць яны, аж пакуль не праспяваюць першыя пеўні. Другой парой паяўлення ёсць поўдзень.

Як ужо мы адзначалі, галоўнай задачай чорта з'яўляецца спакушэнне чалавека. Спакушванне гэта не што іншае, як адвечная барацьба паміж дзвюма супрацьстаўнымі сіламі, барацьба, у якой прычынай ёсць чалавек. Пакінем, можа, спробу інтэрпрэтацыі постаці чорта і зробім гэта наступным разам, а прывядзем некалькі расказаў на тэму сутыкнення з ім чалавека. Пачнем ад спакушвання. Вось як расказвае адна з інфарматарак з ваколіц Гародчыны.

— Быў одін чоловіек, які мнуого чытаў святых ксёнжок. Всіе ідут до цэрквы, а вуон сядэ і чытае. Але батькі начэпіліся, што моў, чом ты до цэрквы ніколі нэ зайдэш. Людэ ходят, а ты дома што нэдіелю сідіш. Встыд просто. Ну і послухав вуон, пушов. На дорозі было мнуого болота. Всіе ідут по болоті, а вуон повэрха. Всёруовно, як бы на крылах летіев. Святы вжэ вуон быв. Зайшов, став в цэркві і слухае службу. Людэ нічого нэ бачат, а вуон всё. Бачыт дэ ангел сідіт, а дэ кепські. Бачыт, кепські дэржыт волову скуору і запісуе всіех, хто оглядуеццяназад. А той чоловіек стоїт просто, ніяк його кепські скусіті нэ можэ. Але ж раптом скуоры нэ хватіло, нэма на чуом пісаті. Взяв тогды той кепські одін кунэць в зубы і тягнэ напявшыся. Тягнув, тягнув, аж раптом як нэ пэрнэ з того всёго і той чоловіек россміявся і зогрышыв. І назад ужэ ішоў так, як всіе, по болоті.

Бачым тут цікавую з'яву. Як вядома, чорт баіцца ўсяго свянцонага, усяго, што звязана з божаскай сілай, і тут раптам паяўляецца ў царкве. Але інтэрпрэтацыю пакінем на другі раз.

Працяг на стар. 4



 

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ТАМАРА КУЛЕША

Два разы ездзіў я ў Лясанку каля Міхалова і знаёміўся з незвычайнай гаспадаркай, якую вядзе Тамара Кулеша. Другі раз быў у канцы чэрвеня, бо якраз тады меў прыехаць яе сын Януш, які вучыцца ў тэхнікуме агароднікаў у Сувалках. Хацеў пагутарыць з маладым наследнікам, але і на гэты раз не ўдалося. Януш паехаў у адно з вялікіх агародніных прадпрыемстваў каля Варшавы, дзе на працягу месяца будзе праходзіць прадбачаную школьнай праграмай практыку.

Вернемся аднак да гаспадаркі. Займае яна плошчу ўсяго ў 480 квадратных метраў. Тут растуць пячурыцы. Для іх Тамара Кулеша пакінула культурна-асветную работу ў міхалоўскім доме культуры. Спачатку займалася чытаннем спецыяльнай літаратуры, ездзіла на курсы і здала экзамен на званне майстра ў галіне вырошчвання гэтых беленькіх грыбоў. Вядома, вопыт — залог поспехаў. Цяпер Тамара Кулеша прадае дзяржаве 6 тон кантрактаваных пячурыц у год за 300 тысяч злотых. Зімою іх адпраўляюць на экспарт і тады плоцяць даражэй. Ёсць даход, але ёсць і расходы ды й папрацаваць трэба. Тамара Кулеша нарыхтоўвае грыбы познім вечарам і раніцай возіць у „Гартэкс“ у Беласток уласнай аўтамашынай. Трэба дадаць, што гэта адзіная такога роду гаспадарка ў Міхалоўскай гміне.

Тамара Кулеша цікава расказвае пра свой штодзённы занятак. Паясняе, наколькі гэта патрабавальная расліна. Пра пачатак гаспадарання, пабудову будынка паводле ўласнага праекта, які аказаўся вельмі адпаведным, пра новыя задумы над павелічэннем прадукцыі, але ўжо супольна з сынам. Сын намераны заняцца таксама вырошчваннем ранняй агародніны.

Вельмі прыгожа на панадворку. Ліповыя алейкі, крыху далей ставы. Прыемна пасядзець на верандзе. Пад сценамі поўна кветак, скальнік, густая маладая трава ля дарожак. Веранда прыгожа аздоблена арыгінальнымі дэкаратыўнымі элементамі з дрэва.

**Я. Целушэцкі**

## ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ

### ПЧАЛЯР

Кожны ў жыцці мае нейкае сваё зацікаўленне. Міхал Сіманюк з Чыжоў любіць пчол. Любіць каля іх хадзіць, даглядаць. І пчолы яго слухаюць. На працягу сваёй шматгадовай працы здабыў вялікі вопыт. Мае звыш 30 пяньkoў. Праўда, няма цяпер для іх такой выгады, як некалі, але М. Сіманюк умее пра іх задбаць. Апрача гэтага гаспадарыць разам з сынам. Але, нягледзячы на гэта, кожную вольную хвіліну з радасцю праводзіць на сваёй пасецы ў сімфоніі пчалінага гудзення. Разумее кожны іх рух, іх пчаліную песню.

— Як стаю між вуллямі, сочачы за рухам іх жыхароў, дык здаецца, усё роўна як бы з імі гутарыў, — гаворыць ён.

(мш)

## ФАЛЬКЛОР

### СЯМЕЙНАЯ

*Moderato*

Цём-на ноч-ка, цём-на-я, шчэй цям-ней бу-
дзя — га-ва-ры-лі лю-дзі: „Свяк-
ра доб-ра бу-дзя га.- дзе.

*Цёмна ночка, цёмная, шчэ й цямней будзя —*
*гаварылі людзі: „Свякра добра будзя“,*
*гаварылі людзі: „Свякра добра будзя“.*
*А свякроўка ўстала, мяне ні збудзіла,*
*пашла да суседаў, мяне асудзіла,*
*пашла да суседаў, мяне асудзіла.*
*А я, маладая, сама рано ўстала,*
*заняла волікі — на росу пагнала,*
*заняла волікі — на росу пагнала.*
*Загнала волікі ў шыроку даліну,*
*сама заплакала ў нішчасну гадзіну,*
*сама заплакала ў нішчасну гадзіну.*
*Паліліся слёзы, як з белай бярозы —*
*хай мілы пачуе ў далёкай дарозі,*
*хай мілы пачуе ў далёкай дарозі:*
*— Як сіва зязюля, то ляці да бору,*
*як мая мілая — жэнь волы дадому,*
*як мая мілая — жэнь волы дадому.*

Ад Ніны Лавіцкай, 1935 года нараджэння, і Валянціны Дарашкевіч, 1937 года нараджэння, вёска Меляшкі гм. Гарадок, запісаў 21 мая 1978 г. Мікалай Гайдук. Расшыфравала мелодыю Людміла Панько.



Міхал Сіманюк на сваёй пасецы. Фота аўтара.

правы (паўкіламетровы адрэзак паміж Кузавай і ст. Чаромхай), сустрэў іх ураганны агонь гітлераўцаў. На ўскраіне ляску Верасок было разбіта некалькі савецкіх танкаў. Адзін танк быў разбіты (далей ад таго месца 200—250 м) у сасняку насупраць цяперашняй сялібы Івана Раманчука. Немцы стралялі з-за насыпу вельмі цэльна. Кожная спроба прайсці небяспечную тэрыторыю канчалася няўдачай. Як пасля выявілася, у трубе насычальні сядзеў нямецкі наглядчык, які кіраваў агнём артылерыі. Пасля яго ліквідацыі танкавая часць магла ісці далей. Аднак зноў трапіла на перашкоду. Была гэта рэчка Нурчык. Немцы, уцякаючы з Чаромхі, узарвалі трубу на чыгуначным шляху Чаромха—Гайнаўка, зараз жа за мастом, яна ўстрымала ваду на рачулцы. Рэчка выліла пад самую вёску. Танкавая часць мусіла абыходзіць станцыю Чаромху з правага боку.

Вобраз, намаляваны Якубам Саўчуком, канчаткова рашае справу смерці і пахавання Героя Савецкага Саюза М. К. Чупількі. І зараз можна сказаць, што танк Чупількі, разбіты ля сасняку насупраць сялібы Івана Раманчука, быў адзінай машынай, якая прарвалася наперад і правяла апошні бой з фашыстамі паміж Чаромхай-станцыяй і вёскай Кузава, а магіла на ўскраіне лесу захавала назаўсёды цела слаўнага героя.

Каб паўней намаляваць партрэт М. К. Чупількі, Героя Савецкага Саюза, заглянем ва ўспаміны сястры Надзежды Купрыянаўны, якая ў сваіх лістах да мяне пісала так:

„Міша рос у вялікай і дружнай сям'і. Яго цікавіла ўсё: прырода, жывіла, тэхніка, а перш за ўсё машыны. Калі мінула яму 7 год, пайшоў у школу. Вучыўся вельмі добра. Быў важаком усёй моладзі... Пасля паехаў у Крым. Там працаваў трактарыстам...“

У 1941 годзе з першых дзён вайны, Міхаіл пайшоў на фронт. Спачатку ваяваў на Каўказскім фронце санітарным інструктарам пасля заканчэння курсаў. Многа людзей вызваліў ад смерці. Тры разы быў цяжка паранены. І кожны раз вяртаўся на фронт. Пасля выздараўлення ён быў накіраваны ў танкавую школу і, калі яе закончыў, атрымаў спецыяльнасць шафёра-механіка самаходнай устаноўкі. Яго накіравалі на II Украінскі фронт у 713 танкавы полк. З баямі ён прайшоў усю Украіну, між іншым, і сваю вёску, у якой нарадзіўся і вырас. Пасля ваяваў на I Беларускім фронце. (Яго геройскі шлях прыгожа запісаны на старонках кніжкі „Зоркі нямеркнучай славы“, якая была выдадзена ў 1975 годзе крымскім выдавецтвам). Мінск, Бабруйск, Бяроза, Брэст — гэта баявы шлях М. К. Чупількі. Пасля наша зямля, зямля братняй Польшчы. І тут, на яе першых рубяжах, паміж Чаромхай і Кузавай паклаў галаву наш герой.

Рашэннем Вярхоўнага Савета СССР ад 23 жніўня 1944 года Міхаілу Купрыянавічу Чупілку пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Зараз, каб аддаць памяць слаўнаму герою, гмінная зборная школа ў Чаромсе будзе насіць яго імя.

Вось так закончылася справа пошукаў магілы героя. Хачу дадаць, што зараз утрымоўваю цесную сувязь з сястрой М. К. Чупількі. Яна была ў маі ў Польшчы і прымала ўдзел у мітынгу, які адбыўся 7 мая з нагоды Дня Перамогі на могільніку савецкіх салдат у Мілейчыцах. Але аб гэтым ужо было ў „Ніве“.

**Ул. Сідарук**

*P.S. Хачу сарэчна падзякаваць усім тым, хто памог мне ажывіць падзеі тых дзён і дапамог у пошуках магілы Героя М. Чупількі, а перш за ўсю Мікалаю Куліку, сакратару гміннай управы, і былому I сакратару ГК ПАРП у Чаромсе тав. К. Краўчыку, I сакратару ГК ПАРП у Мілейчыцах тав. Віталісу Лубе, Якубу Саўчуку і іншым жыхарам Кузавы.*

*(ус)*

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

# БАЧУ...*

Верш Ваву адрозніваецца ад рэшты яе каляжанак тэматыкай і мадэрнасцю, суб'ектывізмам, самаўлюбёнасцю і аніабыякавым натхненнем. Напісаны ўзорнай яшбуршчынай. Гэтым самым заслугоўвае на асабліва дакладны агляд.

*„бачу*
*як*
*на золаку*
*уздыхаеш*
*да першых*
*праменняў дня*
*а*
*потым*
*пыркаеш у венах*
*маіх*
*як асноўны*
*кампанент*
*і*
*туліш*
*маю душу*
*ў сценах метафары*
*а я*
*пешчу*
*твой*
*кожны пульс*
*О!*
*бачу я цябе*
*ТАКУЮ маю*
*як*
*я твая*
*-бела-родная*
*паэзія.“*

Як бог адзіны, хоць і складаецца з трох ліц, так і Ваву і яе паэзія — адзіналітая істота. Гэтая істота надзвычай чулая, натхнёная пяшчотамі, уздыханнямі, пырканнем, туленнем, пульсамі. Паэзія Ваву, пыркаючы ў яе венах, сама пульсуе. І гэтае ўзаемапырканне паэтэса выказвае ў велічы радка „О!“ А веліч сваёй белароднай паэзіі яна бачыць ТАКУЮ гігантычную, як мо і не бачыў дагэтуль ніводзін смяротны.

Ваву нераўнамерна карыстаецца сваімі пачуццямі. У яе мінімальнае пачуццё слыху. Максімум аддае пачуццю зроку. Ці ж не лепш было б чуць „уздыханне“ сваёй паэзіі „на золаку“, чым напружваць зрок, каб убачыць яго (уздыханне). Пяшчотная паэзія Ваву карыстаецца сваволяй. Наўздыхаўшыся на золаку, дае нурца ў нутро паэтэсы. Напыркаўшыся ў ім да адвалу, выпыркне зноў на золаку (ці з гукам, ці паціху — не ведаем — паэтэса не рэагуе на слых), каб ва ўсёй велічы і белі стаць перад сваёй уладаркай.

На маю думку, інакш быў бы складзены верш, калі б паэтэса больш карысталася пачуццём слыху. Бо пачуўшы яе (паэзіі) ўздыханне на золаку, калі жаваранкі ўжо паміж небам і зямлёй заліваюцца ў спевах, калі салавейкі ў карчах над вадой надрываюцца ў чароўных трэлях, калі ўсё жывое ў радасцях сустракае надыходзячы дзень, пачуўшы жаласнае ўздыханне сваёй паэзіі, мо паэтэса і запыталася б: чаго ж ты, мая белародненькая, гэтакая смутненькая, чаго ж так жаласна ўздыхаеш? Ці ж замала ад мяне пяшчот маеш?

А што варты і найчулейшыя пяшчоты, калі няма ўзаемазразумення! Слухаючы пырканне ў венах сваіх, адчувальна песціш „кожны“ пульс сваёй паэзіі. Бы ў нейкім самазабыцці не можаш зразумець, што кожны пульс б'е заканамерна, падпарадкаваны неадлучнаму ў жыцці рытму, што нармалізаваны рытм — пырканне ў венах з'яўляецца гарантыяй дасканаласці жыцця дадзенай асобі. Нават фізічная праца, калі ў ёй ёсць рытм — лягчэйшая. Рытм, уложаны майстрам у любое дзела, прыдае выгляд прапарцыянальнасці і харства. Паэзія тое самае майстэрства. Паэты, якія прадаліся „наватарскай“ плыні, далёка адышлі ад мастацкай паэзіі і не дайшлі да мастацкай прозы. Паставілі сябе паміж зоркамі, у змрочным космасе, дзе вее холадам немінучага амярцвення. Гэты трагічны канец прадбачвае і дасканала адчувае твая паэзія. Вось таму і на золаку яе ўздыханні. Пазбаўленая дару мовы, толькі пыркаючы ў тваіх венах, яна аднак не траціць надзеі, што мо ўрэшце паэтэса здагадаецца і знойдзе акрыляючы паэзію рытм.

Інакш была б вялікая шкода, бо і ў яшбурскім вершы тваім, даражэнькая Ваву, ёсць доказ, што натура не паскупілася адарыць цябе талентам паэзіі.

**Дзядзька Квас**

*) *„Беларускі каляндар — 78“*

## Сардэчныя тайны

Гэта было даўно. Я вучылася ў ліцэі і было мне тады 17 год. Вось тады і пазнаёмілася я з Валодзем, на год старэйшым за мяне. Марылі мы аб супольнай будучыні і цвёрда верылі, што нішто нас у жыцці не разлучыць. Але праз год сям'я Валодзі выехала за граніцу назаўсёды. Валодзя пакуль што астаўся з бабуляй, якая нізашто не хацела пакінуць сваю родную хату. Але ўжо на канікулах бацькі забралі Валодзю да сябе. Ад'язджаючы, Валодзя прысягаў, што і мяне ён возьме да сябе. Мне здавалася, што нікога і нічога вакол мяне няма — адна пустка. Я толькі чакала лістаў ад каханага. І ён пісаў. Гэтыя лісты сталі для мяне даражэйшымі за ўсё. Але ішоў час, і атрымоўвала я іх штораз менш. І ўрэшце не атрымала ўжо адказу на свой ліст. І зразумела, што ўсё, канец. Хлопцы заляцаліся да мяне, але я не хацела на іх глядзець. Я ўглядалася ў фатаграфію Валодзі, якую заўсёды пры сабе насіла. Але аднойчы пазнаёмілася я з Міркам. Было гэта ў сяброўкі на вяселлі. Прыгожы хлопец, культурны. Пачалі спатыкацца, я запрасіла Мірка дахаты. Бацькам ён спадабаўся, і так мы сябруем ужо паўгода. Але нядаўна Мірэк сказаў: „Даволі хадзіць, пара б жаніцца". І я моцна задумалася. Я адчула, што недзе на дне майго сэрца нашу я Валодзю, маё першае каханне. А можа адазвецца ён яшчэ?

Аля з Беластока

Аля! Вельмі трывалым аказалася тваё першае каханне. Пераважна прамінае яно хутка, пакідаючы па сабе толькі ўспамін. Але ўсё ж спадзявацца на Валодзю, думаю, няма чаго. Парваліся кантакты — парвалася і каханне. І мусіш пагадзіцца з гэтым. Ці выходзіць за Мірка, мусіш вырашыць сама. Мусіш упэўніцца, ці кахаеш яго, каб звязаць з ім сваё жыццё назаўсёды.

**Сэрцайка**




### АСЦЯРОЖНА З ЧЫРАМІ!

Чыры належаць да гнойных хвароб скуры, выкліканых гранкоўцамі. Іх узнікненню спрыяюць дробныя пашкоджанні або наяўнасць унутраных заразных цэнтраў (напрыклад, гнойныя міндаліны, сапсаваныя зубы і г.д.). Чыры звычайна паяўляюцца ў розных месцах. Найчасцей аднак паяўляюцца яны на карку, на хрыбце, на бёдрах і г.д. Асабліва небяспечнымі бываюць чыры на твары ў аколіцы верхняй губы, вачэй і скроняў, паколькі існуе магчымасць заражэння кары мозга. Якія ж пачатковыя прызнакі чыра і як выглядае месца, у якім ён узнікае?

Месца гэта бывае цвёрдае і чырвонае, а чыр пачынаецца ад запальнага нацёку. Далей узнікае так званы нарыў. Узнікненне чыра суправаджае вялікі боль. Можа нават выступіць досыць высокая тэмпература і агульнае дрэннае самаадчуванне. У выпадку, калі чыры паўтараюцца і ўтрымліваюцца вельмі доўга, прычыны трэба шукаць у нейкай агульнай хваробе, напрыклад, у цукровай хваробе.

Што трэба зрабіць, калі ў вас паявіўся чыр?

У пачатковы перыяд можна прыкладаць іхціёлавую мазь, або двухпрацэнтны раствор іхціёлу. Калі гэта не дапаможа і чыр не знікне на працягу 2—3 дзён, або пачнуць паяўляцца новыя, неабходна звярнуцца да доктара. У лячэнні прымяняюцца антыбіётыкі, сульфанаміды, а таксама мясцовыя бактэрыябойчыя сродкі. Часамі неабходна хірургічнае умяшанне.

Аб тым, як трэба паступаць з чырамі, многія думаюць памылкова. Дактарам добра вядомы факты, калі пацыенты, паступаючы неўласціва, самі сабе шкодзяць і перашкаджаюць тым самым у лячэнні. Чаго ж пры чырах нельга рабіць?

У ніякім выпадку нельга выціскаць чыроў, Гэта пагражае агульным заражэннем і можа прывесці да вельмі небяспечных ускладненняў. Ні ў якім выпадку нельга датыкацца да хворага месца. Прыкладаючы павязку з іхціёлавай маззю, трэба гэта рабіць так, каб не датыкацца да чыра рукамі.

Ці ў выпадку чыроў можна гаварыць аб нейкай прафілактыцы? Што трэба рабіць, каб неяк папярэдзіць узнікненне чыроў?

Перш за ўсё неабходна сачыць за гігіенай. Прычым гаворка тут не толькі аб чысціні і гігіене цела, але таксама аб адпаведным харчаванні, паколькі арганізм павінен атрымліваць неабходную колькасць вітамінаў. Рэкамендуецца таксама спосаб жыцця, які вядзе да агульнага ўзмацнення арганізму. І яшчэ адно: не трэба выціскаць ніякіх прышчоў. Асаблівае значэнне гэта мае пры прышчах на твары. Можа гэта прывесці да вельмі небяспечных ускладненняў. Калі ж, нягледзячы на ўсё гэта, чыр паявіцца, нельга адразу рабіць занадта песімістычных вывадаў і панікі, а звярнуцца да доктара.

**Эскулап**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Бацька А. быў высланы немцамі ў канцлагер і памёр праз тры гады пасля вайны. Сам А. з'яўляецца інвалідам II групы. Ці прыслугоўвае яму сямейная пенсія па бацьку? А. пражывае на гаспадарцы. Сын яго працуе ў горадзе.

АДКАЗ: Сямейная пенсія членам сям'і, якім споўнілася 60 год (мужчынам) і 55 гадоў (жанчынам), або маюць групу інвалідства, прыслугоўвае, калі іх бацька быў залічаны да адной з інвалідскіх груп, а інвалідства гэта ўзнікла ў сувязі са знаходжаннем у канцэнтрацыйным лагеры, але толькі ў тым выпадку, калі знаходзіўся ён у канцлагеры за ўдзел у падпольным або партызанскім руху. У такім выпадку бацька залічаецца да салдата, які пацярпеў у часе ваенных дзеянняў і карыстаецца ўсімі правамі, якія прыслугоўваюць ваенным інвалідам, а членам яго сям'і прыслугоўвае пенсія на аснове закону аб забеспячэнні ваенных і вайсковых інвалідаў і іх сем'яў.

Гэтымі правамі не карыстаюцца вязні былых канцэнтрацыйных лагераў і іх сем'і, калі яны былі туды высланы не за ўдзел у падпольным руху або ў партызанах. У выключных выпадках міністр па справах ветэранаў можа гэткім асобам прызнаць пенсію, калі мужчыне споўнілася 60, а жанчыне 55 гадоў, або з'яўляюцца яны інвалідамі.

## Мала, але цікава

### КАЛЬМАРЫ — „АРЫСТАКРАТЫ"

Кажуць, што ў жылах сапраўдных арыстакратаў цячэ блакітная кроў. Вядома, гэта проста крылаты выраз. А між тым, блакітная кроў ёсць. Толькі не ў арыстакратаў, а, напрыклад, у галаваногіх малюскаў — кальмараў, каракаціц.

Як вядома, звычайны, чырвоны колер крыві тлумачыцца наяўнасцю ў ёй гемаглабіну — рэчыва, якое здольна актыўна паглынаць і аддаваць кісларод. Дык вось у кальмараў, каракаціц і некаторых іншых марскіх насельнікаў ролю гемаглабіну, як разносчыка кіслароду ў арганізме, выконвае іншае рэчыва — гемацыянін, які ўтрымлівае медзь. Як і ўсе медныя солі, гемацыянін, накшталт меднага купавасу, — прыгожага блакітнага колеру. Таму і кроў у кальмара „арыстакратычная" — самая што ні ёсць блакітная.

## Этнаграфічнае акенца



*Хата Яна Сцепанюка з Чыжоў. Фота Я. Целушэцкага.*

## Вер-не-вер

Дарагі Астронку! Прысніўся мне вельмі дзіўны сон. Быццам я была ў вёсцы Семяноўка. Уваходжу я ў краму, а там цячэ чырвоная вада з усіх сцен. Я выходжу з крамы і бачу, што ў краме вада, але яна не чырвоная, а чыстая. У той вадзе стаіць маладая з маладым, у якіх два тыдні таму назад быў шлюб. Маладая стаіць у белай шлюбнай сукенцы, а малады яе трымае, каб яна не ўпала. Калі я выходзіла з вёскі Семяноўка, я ішла пад дрэвам і ў мяне стукнуў пярун, але мне нічога не сталася і я ішла далей. Я дзіўлюся, а перада мной невядома адкуль едзе тая ж самая маладая з маладым, якіх я бачыла каля крамы. Яна апранута таксама, як і ў краме была апранута. Гэтая маладая сядзіць на веласіпедзе, а малады вядзе гэты веласіпед. Ішлі яны так хутка, што я іх не магла дагнаць. На гэтым я і прачнулася.

Дарагі Астроне, прашу цябе, надрукуй мой сон у „Ніве" і напішы, што ён абазначае.

Нецярплівая з П.

**Нецярплівая з П!** Ясная справа. Будзеш мець сур'ёзныя клопаты, з якіх аднак вылезеш. Бачыш, са сцен спачатку сачылася чырвоная вада, а пасля яна стала чыстай. І сцены і чырвоны колер у гэтым выпадку прадвяшчаюць нейкія перашкоды, нейкую сварку, раздор, варожасць. Да таго ж увесь час цябе праследавала тая пара, што два тыдні назад брала шлюб, а маладая ж яшчэ была ў шлюбнай сукенцы, а гэта абазначае нейкі смутак для цябе. Але вада ў краме пачысцела, дый не заўсёды аднак эпілогам сваркі з'яўляецца вялікая трагедыя. У цябе будзе якраз наадварот. Заззяе сонца, і сварка гэтая закончыцца неспадзяванай радасцю, аб чым яскрава сведчыць прысніўшыся табе пярун, што стукнуў у цябе, але нічога дрэннага табе не зрабіў.

**Астрон**




У другой палове дня нарэшце прыбег Міша.

— Дзе вы былі, дзяўчаты? — закрычаў ён. — Я вас усюды шукаў! Толькі што сустрэў Ткачэвіча. Яго немцы ўсё ж прымусілі пагрузіцца...

— Ён паехаў? — ахнула Лена.

— Ну ты і дзівачка!.. Як жа ён мог паехаць, калі я яго сустрэў. Ён учора вечарам прыйшоў на марскі вакзал, паставіў, каб супакоіць доктара Петры, у каюту чамадан, а потым знік.

— А што ў порце? Ты ў яго даведаўся?

— Ён сказаў, што эсэсаўцы ў самы апошні момант селі на катэр і хацелі ўзарваць порт з мора. Але агульнага выбуху ў іх так і не атрымалася!

— Што ж яны ўзрывалі ноччу? — спытала Надзя.

— Асобныя склады і прычалы. Але многае ўсё ж захавалася. А галоўнае — горад цэлы!

Так, ім бы толькі радавацца, бо небяспека мінула, і світанак яны сустрэлі ў вызваленым горадзе!.. Але ўсё ж чагосьці не хапала. Скончылася тое, чым яны да гэтага часу жылі, што іх здружыла за гэтыя доўгія месяцы, што стала сэнсам іх існавання...

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Аднойчы выпадак звёў мяне ў Адрэсе з В. І. Кавалём, былым капітанам Адэскага марскога порта. Ён вярнуўся ў Адэсу разам з камісарам порта М. І. Гільдзіным на другі дзень пасля вызвалення горада.

— Калі мы з Гільдзіным аглядалі порт, — расказваў Васіль Іванавіч, — то ў галаве Каранціннага мола, ля прычала, знайшлі глыбокі бліндаж, а ў ім размеркавальны шчыт, да якога былі падведзены правады ад бункераў, напоўненых узрыўчаткай. Мы выклікалі сапёраў, і яны ўстанавілі, што гітлераўцы рыхтаваліся разбурыць порт адным магутным выбухам. Але гэта ім не ўдалося! Правады паміж многімі бункерамі былі перарэзаны. Асобныя выбухі пашкодзілі некаторыя прычалы, але не здолелі выклікаць моцнага страсення глебы, ад якога магла б пацярпець Адэса...

Аднойчы мы з Гільдзіным, які да гэтага часу працуе ва ўпраўленні Чарнаморскага параходства, паехалі на Каранцінны мол. Вось ён, гістарычны бліндаж. Ён захаваўся.

Галоўны хавальнік Адэскага музея Марскога Флоту СССР Э. А. Ашрафіян адшукаў дакладную запіску камандзіра роты мінёраў капітана Бурдэнкі і даў мне з яе выпіску.

Капітан Бурдэнка пісаў:

„За перыяд размініравання Адэскага порта з 17 мая па 29 чэрвеня 1944 года на тэрыторыі порта сабрана і патоплена ў моры 24.689 арт. снарадаў, дэфарміраваных і раскіданых пры выбуху эшалона. Сабрана таксама і патоплена 987 авіябомб.

Стаанным вывучэннем фактычнага матэрылу намі ўстаноўлена, што праціўнік меў на мэце поўнасцю знішчыць порт, для чаго ім было завезена 180 тон выбуховых рэчываў".

Дзе ж героі, што ў тую трывожную ноч, рызыкуючы жыццём, перашкодзілі гітлераўцам ажыццявіць гэты страшэнны план?

Першая нітка трапіла мне ў рукі, калі я прачытаў у „Черноморской коммуне" паведамленне дацэнта Я. М. Штэрнштэйна, у якім расказвалася аб групе Алены Бутэнка, якая дзейнічала ў Адэскім порце ў гады вайны.

Хутка пры дапамозе Якава Міранавіча я сустрэўся з Ленай Бутэнка, Мішам Ільянковым і Аляксандрам Ткачэвічам. Вядома, гэта група была толькі часткай падполля, якое актыўна дзейнічала ў порце, і па ўмовах канспірацыі прама не была з ім звязана. Устаноўлена, што ў тую памятную ноч, калі над портам і Адэсай навісла пагроза, многія падпольшчыкі, рызыкуючы жыццём, таксама рэзалі правады, якія злучалі бункеры. Таму пазней ля адных і тых жа прычалаў было выяўлена па некалькі абрыўкаў кабеляў.

Як жа склаўся лёс Лены Бутэнка і яе таварышаў пасля вайны? Лена працуе ў Прымоскім раённым камітэце Чырвонага Крыжа, Міша Ільянкоў — дацэнт, навуковы работнік, Надзя Зайцава — супрацоўнік ашчаднай касы Брацкага раёна, а Кацярына Адамчук — работнік грамадскага харчавання. Як бачым, былыя разведчыкі прысвяцілі сябе самым мірным заняткам.

**КАНЕЦ**

## ПАД ПАРАСОНАМ



*— Знoў гэты метэарытны дождж.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Марылі Глодскай з Кляшчэляў, Люсі і Малгосі, Раісы Васілюк з Гайнаўкі, Марысі з Грабаўца, Валянціны Балтручук з Войшкаў, А. Антанюк, М. Рыжынскай і Е. Назар змяшчаем песню*

## NALEŻY NAM SIĘ TAKI DZIEŃ

**śpiewa Zdzisława Sośnicka**

**słowa: Zbigniew Stawecki**

**muzyka: Jacek Szczygieł**

Należy nam się taki dzień,
taki dzień, taki dzień, chociaż raz.
Należy nam się taki dzień,
jeden dzień, zieleń drzew, słońca blask.
Schowamy smutki w gęsty cień,
żaden z nich nie śmie dziś spotkać nas.
Należy nam się taki dzień,
taki dzień, taki dzień, taki czas.

Dzień radości i prostych dróg,
żebyś do mnie znów trafić mógł,
żeby dwoje, i ty, i ja,
miało swój świat tylko nasz.
Długa droga przez cały świat,
wiele wrażeń i nowych barw.
Świat nas budzi i woła ptak,
czeka na dzień, słoneczny dzień!

Należy nam się taki dzień,
taki dzień, taki dzień musi przyjść.
Należy nam się taki dzień,
taki dzień, taki dzień, choćby dziś.
Więc tylko trochę serce zmień,
naucz je cieszyć się byle czym.
Należy nam się taki dzień,
taki dzień, taki dzień i my w nim.

Dzień dla ludzi takich jak my,
niech ich budzi do nowych dni,
niech im powie, że świat to świat,
uczmy się go póki czas.
Dzień powrotu do dawnych miejsc,
gdzie na pewno ukryte jest
jedno szczęście za jeden gest,
muszę je mieć, dla nas mieć!




### ПАЦЕШЫЛА

Бабуля частуе свежым малаком унучку і пытаецца:

— А ты, Алёнка, будзеш мяне частаваць малаком, калі вырасцеш?

— Абавязкова, бабуля, буду частаваць, калі ты будзеш маленькая.

### ВЯЛІКІЯ ГРОШЫ

Пасля заканчэння першай дзеі, адзін з гледачоў спытаў маладога акцёра, які іграў ролю найміта:

— Чаму ў беднага найміта такія доўгія валасы?

Але той не разгубіўся:

— Таму, што ў той час дваццаць злотых былі вялікія грошы.




Першы жабрак: — Пагана быць глуханямым: усё чуеш, а нічога не можаш сказаць.

Другі жабрак: — А яшчэ горай быць сляпым: на ўсё азірайся, заплюшчыўшы вочы.

### МАРНЫ ЛЯМАНТ

Змружыў соладка я вочы,
Раптам хтосьці сярод ночы:
— Ратуйце!
Ні душы нідзе наўкола,
Ён жа зноў на поўны голас:
— Ратуйце!
Ад яго такога енку
Ляскацяць мае пашчэнкі.
— Ратуйце!
Страх даймае і сумненні,
Падгінаюцца калені.
— Ратуйце!
Ці гарыць што, ці хто тоне?
Даць адказ не мог ніхто мне...
— Ратуйце!
Мо ў кватэру хто ўламіўся?
Мо з кагосьці наглуміўся?
— Ратуйце!
Мне здаецца, гэты вэрхал
Рвецца з верхняга паверху:
— Ратуйце!
А магчыма, знізу нават
Далятае гэткі лямант:
— Ратуйце!
Дзе ж спакойна тут заснецца,
Калі хтосьці так дзярэцца:
— Ратуйце!
Што накінуць бы на плечы?
Не знайду патрэбнай рэчы...
— Ратуйце!
Ну, бягу... Дзе ж толькі ляска?
Пачакайце, калі ласка...
— Ра-туй-це...
Гэта ўжо апошні выдых.
Як жа я за дзверы выйду?
Ратуйце!!!

**Анджэй Навіцкі**



*— Няхай дзіцё адпачне па-людску...*



**Аўтабіяграфію ўсякі раз пачынаў фразай: „Бацька мой вядомы начальнік“.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да лекара прыйшлі тры пацыенткі з адной і той жа хваробай. Першай, жонцы камерсанта, ён сказаў:

— Найлепшае лякарства для вас, мадам, мора, фрукты, спакой...

Другой, жонцы скромнага служачага, ён параіў:

— Фрукты і спакой...

Жонцы безработнага было сказана:

— Паветра, мадам, паветра і яшчэ раз паветра!

* ✼ *

— Перад вамі, сэр, самая высокая гара ў нашым штаце.

— А што, існуюць, мабыць, якія легенды, паданні, звязаныя з гэтым месцам?

— Колькі хочаш! Двое закаханых, напрыклад, аднойчы ўзабраліся на гэту гару і больш сюды не вярнуліся.

— Цікава. І што, яны кінуліся ў цясніну?

— Не. яны спусціліся з другога боку.



*Без слоў.*

## РОБАТ

Мы доўга абмяркоўвалі, што зрабіць у нашай канторы, каб, нарэшце, рытмічна і своечасова выконваць план. Не памагалі ніякія нарады, загады: па ацэнцы вышэйшай установы мы заўсёды займалі апошняе месца.

Урэшце наш мясцовы рацыяналізатар прапанаваў гаспадарчым спосабам зрабіць робата-чыноўніка. Адзін аддзел падрыхтаваў галаву, другі рукі, трэці ногі, чацвёрты корпус. Усе часткі мы звязалі шнурком, паставілі разеткі, рознымі правадамі злучылі яго з асобнымі аддзеламі і пачалася эксплуатацыя. Проста дзіва, робат дзейнічаў бездакорна, вынікі яго працы перавысілі нашы чаканні. Мы пачалі жыць бесклапотна.

Кожны звальваў на яго сваё заданні, і ў нас было многа свабоднага часу. Мы хадзілі ў горад, каб у кафэ пагутарыць са знаёмымі, той-сёй выбягаў на ранішнія сеансы ў кіно, жанчыны гойсалі па магазінах, дырэктар задаволена паціраў рукі, бо планы выконваліся своечасова, і ўсе атрымлівалі прагрэсіўку.

Мы не забывалі і робата. Час ад часу да яго прыходзіў нават майстар, каб сёе-тое падкруціць, памяняць той ці іншы правадок, а галоўны інжынер неаднойчы ляпаў яго па корпусе.

Ды вось аднойчы робат спыніўся і — ні тпру ні ну. Мы яму лілі ў рот натхненне, мясцком заахвочваў яго воклікамі, дырэктар штосьці шаптаў на вуха, супрацоўнікі імкнуліся пусціць у ход яго рукі і ногі, а ён так заўпарціўся, што нават наш рацыяналізатар не змог раварушыць яго.

Нарэшце мы разгневаліся і вырашылі разабраць яго, ліквідаваць. Калі мы развязалі шнуркі, разнялі на часткі, то аказалася, што ў сярэдзіне сядзіць ледзь жывы наш рэферэнт Скрыбка.

— Гэта ўжо занадта! — абурыліся мы. — Гэтак нас падвёў! — наракалі ўсе супрацоўнікі.

— На звалку яго! — пачалі крычаць найбольш заўзятыя.

І мы неадкладна звольнілі яго. Няхай нягоднік не прыкідваецца робатам.

**Уладзіслаў Якубоўскі**



*Без слоў.*

З „Весніка Задрыпанкі“

### ТУТ СПЫНЯЎСЯ САЛАВЕЙЧЫК

Будучы праездам у Задрыпанцы, малашырокавядомы паэт Расціслаў Салавейчык некалькі разоў спыняўся перад вітрынай віннага аддзялення мясцовага гастранома.

### НА ПЛЯЖЫ

— Ты што, ходзіш купацца ў рабочы час? — пытаюць дырэктара Задрыпанюка.

— Я тут па службовых справах.

— Па якіх жа?

— Падбіраю новую сакратарку.



*Артыст.*

### ЗАДАВОЛЕНА

— Вы задаволены сваёй кватэрай, пані Задрыпкоўская?

— Вельмі! З тых пор, як мы пераехалі, мы ні разу не пасварыліся з мужам.

— Чаму ж?

— Бачыце, дом пабудаваны так, што ад гучнага слова зусім могуць абваліцца сцены!

## КУРЁЗЫ

### НЕДАРАВАЛЬНАЯ КРЫЎДА

Прозвішчы трапляюцца ўсялякія. Ёсць надта простыя, каб здагадацца аб іх паходжанні. Ёсць непаразумелыя і нават смешныя. Але чалавек наогул не задумваецца, чаму так ці інакш гучыць тое ці іншае прозвішча, бо, як усім вядома, яно само па сабе не характарызуе духоўную сутнасць чалавека.

Але, як паказвае жыццё, на самай справе гэта не заўсёды так. Прозвішча можа быць нават абражальным. Не так даўно ў Італіі было ўспрынята, як крыўдная абраза, прозвішча — Пінаэт. Было гэта так. Старшы капрал грамадскай бяспекі Эўджэніо Д'Альберто выступаў на чарговым прафсаюзным сходзе паліцэйскіх вобласці Абруцці. Ён вёў гаворку пра дрэнныя адносіны з боку паліцэйскага начальства да сваіх падначаленых і ў канцы дадаў: „Няхай усе ведаюць аб пінаэтах з паліцыі правінцый Кеці і Л'Акуіла“.

Палкоўнік Джузеппе Конці і падпалкоўнік Альберто Сарыеце ўспрынялі гэтыя словы, як абразу ў свой адрас і падалі на Д'Альберто заяву ў суд. Вайсковы следчы Франчэска Джэнціле падтрымаў іск камандзіраў і матываваў гэта тым, што слова „пінаэт“, безумоўна, з'яўляецца „бясспрэчнай абразай“, бо такі сэнс гэтага слова выцякае з таго, што чылійская хунта, якую ўзначальвае генерал Пінаэт, „практыкуе рэпрэсіўныя метады“ ў адносінах да людзей.

Факт застаецца фактам: нават у паліцыі крывавы дыктатар не карыстаецца добрым аўтарытэтам.




**Калі чалавеку добра, ён усміхаецца. Дык усміхніся — і табе зробіцца добра!..**